# ДОЛЯ СЬВЯТЫНЯЎ МЕНСКУ

„МЕНСК" — вялікі белы напіс на чырвонай мураванцы чыгуначнага ведамства вітаў заўсёды падарожных з Заходняй Беларусі, калі цягнік спавальняў сваю хуткасьць і памалу набліжаўся да гораду. І хаця Менск яшчэ перад далучэньнем Заходняй Беларусі быў пераназваны ў Мінск, то, відаць з увагі на кошты, управа чыгункі не сьпяшалася перамалёўваць тае „хаты стрэлачніка" на белы або чырвоны колер, каб зацерці непажаданы „нацдэмаўскі" назоў сталіцы Беларусі.

І як надзіў, напіс гэты заўсёды выклікаў „контррэвалюцыйныя" думкі і аб далёкай мінуўшчыне Менску, што сягае прынамся 11-га стагодзьдзя, і аб багатай гісторыі Беларусі, і аб тых зьменах назову гораду ў залежнасьці ад палітычнай каньюнктуры, і аб апошняй моўнай палітыцы Масквы.

Міжваенны Менск быў несамавітай мешанінай вялікага й прыгожага гораду, гэбрэйскага мястэчка й звычайнай беларускай вёскі. Мешаніна гэтая часта сустракалася ў адным квартале, у адным блёку. Вось для прыкладу.

У мадэрным квартале гораду паміж Домам ураду й прыгожым Чырвоным касьцёлам Сьв. Сымона й Галены, бліжэй да былой Савецкай вуліцы, галоўнай вуліцы Менску, стаяла звычайная вясковая хата зь бярвеньняў, якая пэўна шчасьліва дастаяла да канца вайны. А калі прайсьці адзін квартал ад таго-ж Дому ўраду ў кірунку рэчкі Нямігі, якая там цякла пад ходзішчам, насланым над ёй з дылёвак, да вуліцы Няміга, — пачынаўся ў зяленіве садоў вясковы пасёлак.

Падобна выглядаў і раён Тэатру Опэры й Балету, калі кіравацца на Татарскія гароды, а далей — бедныя вясковыя вуліцы Калгасная й Саўгасная. І ў якім кірунку гораду ні пайсьці, можна было назіраць падобнае.

Выняткам быў раён Высокага Места (пляцу Свабоды) — вытрыманы ў стылі барока ансамбль каталіцкага катэдральнага касьцёлу, Бэрнардынскіх касьцёлаў і манастыроў, які сваёй старавечнасьцяй і прыгаством нагадваў падобныя кварталы заходня-эўрапейскіх гарадоў.

Да пачатку вайны ў Менску дый у цэлай цэнтральнай і ўсходняй Беларусі ня было ніводнай дзейнай сьвятыні ані легальна дзейнага сьвятара якога-колечы веравызнаньня. Рэлігійнае жыцьцё было зьнішчанае, сьвятыні разбураныя або перабудаваныя для іншых патрэбаў, сьвятары павысыланыя ў канцэнтрацыйныя лягеры.

Менскі праваслаўны катэдральны сабор Сьв. Пятра й Паўла, што знаходзіўся на пляцы Высокага Места, быў падарваны дынамітам, а ягонае месца скарыстоўвалася на стаянку для зьвярынца вандроўных цыркаў. Другі, Чыгуначны праваслаўны сабор, якога пабудова скончылася перад Першай сусьветнай вайной, быў таксама падарваны дынамітам і на ягоным месцы збудаваны гараж для Дому ўраду. Найстарэйшая ў Менску праваслаўная царква Сьв. Пятра й Паўла, збудаваная ў 1611 г. і на жаданьне Кацярыны ІІ-й пераназваная ў Кацярынінскі сабор (у народзе званая Жоўтай царквой), была перароблена ў склад спажывецкіх тавараў. Архірэйская царква і пры ёй архірэйскі дом пераробленыя ў Дом Чырвонай арміі (цяпер Дом афіцэраў). Рэпрэзэнтацыйная канцэртавая заля гэтага дому — гэта былая Архірэйская царква. Пры перабудове і ўпрыгожаньні залі былі скарыстаныя надмагільныя помнікі з разбураных праваслаўных могілак на Старажоўцы і каталіцкіх на Залатой горцы. Абломкі крыжоў так і валяліся каля Дому Чырвонай Арміі яшчэ ў часе апошняй вайны.

Старавечны будынак Спаса-Прэабражэнскай царквы (колішняга каталіцкага касьцёлу жаноцкага манастыра) быў перароблены на спартовы клюб. Толькі адна праваслаўная царква Сьв. Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках захавалася не пераробленай ані звонку ані ў сярэдзіне.

Ня ў лепшым стане знайшліся й каталіцкія сьвятыні. Каталіцкі катэдральны касьцёл Дзевы Марыі на пляцы Высокага Места, хаця захаваў свой вонкавы выгляд, у сярэдзіне быў цалкам разбураны і скарыстоўваўся на гараж для грузавых аўтамашынаў. Два Бэрнардынскія касьцёлы ў раёне Высокага Места былі датарнаваныя да патрэбаў архіваў; на архіўны склад быў скарыстаны й касьцёл на Залатой Горцы. Касьцёл Сьв. Сымона й Галены, збудаваны коштам сям'і Вайніловічаў (у народзе званы Чырвоным касьцёлам з увагі на колер цэглы), быў перароблены на тэатр. Апошнімі гадамі перад вайной у ім знаходзіўся Тэатр Юнага Глядача. Адзіны неперароблены каталіцкі касьцёл захаваўся на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках за пяць кілямэтраў ад Менску.



Архірэйская царква й дом да перабудовы іх у Дом Чырвонае Арміі (Дом Афіцэраў).



Каталіцкі катэдральны касьцёл і дом былое езуіцкае калегіі (фота Г. Курца) у 1941 годзе.

Падобная доля спаткала й сьвятыні нехрысьціянскіх веравызнаньняў. Харальная сынагога ў маўрытанскім стылі перароблена была на тэатр, а ансамбль найстарэйшых сынагогаў Менску, званы Школьным Дваром, скарыстоўваўся як склад для тэатральных дэкарацыяў. Новазбудаваны мячэт менскіх Татараў у маўрытанскім стылі стаўся складзішчам рыбных тавараў.



Менская Харальная сынагога ў часе першае нямецкае акупацыі.

22 чырвеня 1941 г. пачалася нямецка-савецкая вайна, а наступнага ўжо дня нямецкая авіяцыя бамбардавала Менск. У выніку налёту ў горадзе ўзьніклі пажары. 24-га чырвеня галоўнымі вуліцамі Менску прайшлі спэцыяльныя аддзелы НКВД, закідваючы ручнымі гранатамы дамы, што яшчэ ня былі ахопленыя пажарам, канчальна нішчачы горад перад панічнай эвакуацыяй савецкіх урадавых установаў. Аб ролі спэцыяльных аддзелаў НКВД у зьнішчэньні Менску савецкія пісакі ня любяць успамінаць.

Нямецкія вайсковыя ўлады Менску прыхільна паставіліся да аднаўленьня рэлігійнага жыцьця гораду, а гарадзкая ўправа чым магла, старалася дапамагаць. Піянерская роля ў аднаўленьні праваслаўнага рэлігійнага жыцьця прыпала Прэабражэнскай царкве жаноцкага манастыра, што была перароблена на спартовы клюб. Сюды вярнуліся, перажыўшы бальшавіцкае ліхалецьце на прадмесьці Менску, колькі манашак з энэргічнай маці Антанінай. Неўзабаве прыбыў сюды з Заходняй Беларусі манах а. Уладзімер Фінкоўскі. Гэтая сьціплая манастырская царква на працягу трох год нямецкае акупацыі выконвала функцыі катэдральнага сабору. Тут служылі Мітрапаліт Паньцялейман і Архіепіскап Філафей, і тут адбыўся ў 1942 г. Ўсебеларускі Праваслаўны Царкоўны Сабор, які аднавіў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Тут-жа быў створаны, на чале з Архіепіскапам Філафеем, камітэт для адбудовы царкоўных будынкаў, які на працягу двух год здолеў аднавіць катэдральны сабор Сьв. Пятра й Паўла (Жоўтую царкву), царкву на Старажоўцы, Малую чыгуначную царкву (былы клюб сьляпых), Сьвятадухаўскую царкву мужчынскага манастыра (былы Бэрнардынскі касьцёл) ды пабудаваць новую драўляную царкву ў прадмесьці Менску Козырава.

Менскія Беларусы-каталікі ня мелі шчасьця аднавіць сваё рэлігійнае жыцьцё. Епіскапу Магілеўскаму й Менскаму Балеславу Слоскану, які жыў у Рызе, было забаронена вярнуцца на Беларусь і ўзяць кіраўніцтва сваёй епархіяй. Папа Пій XII-ты, на параду генэрала езуітаў а. Лядухоўскага, даручыў аднаўленьне рэлігійнага жыцьця на Беларусі Арцыб. Віленскаму Рамуальду Ялбжыкоўскаму. Праект гэты аднак пацярпеў поўную няўдачу. Нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі польскім ксяндзом-місіянерам, як асобам, што прыехалі нелегальна, пакінуць Беларусь, а тых, хто не хацеў падпарадкавацца загаду, высылалі ў канцэнтрацыйныя лягеры або каралі сьмерцяй.



Дом Чырвонае Арміі (Дом Афіцэраў), перабудаваны ў 1934-39 гадох з Архірэйскае царквы.



Катэдральны касьцёл, перароблены ў Дом фізкультуры таварыства „Спартак".

Нашы першыя сьвятары-Беларусы, якія прыбылі ў горад, а.а. Ст. Глякоўскі й Д. Малец, былі прыхільна спатканыя мянчанамі, але па колькіх месяцах працы, зь няведамых да сяньня прычынаў, былі арыштаваныя й высланыя ў канцэнтрацыйныя лягеры Нямеччыны. Іхны наступнік а. В. Гадлеўскі, які нейкі час выконваў функцыю галоўнага школьнага інспэктара, быў зьнішчаны ў Менску менскім СД у канцы 1942 году. Сьвятары гэтыя ўсьпелі аднак аднавіць менскія сьвятыні: катэдральны касьцёл Дзевы Марыі, касьцёл Сьв. Сымона й Гэлены (Чырвоны касьцёл) ды забясьпечыць перад канчальнай руінцай часткова зьнішчаны пажарам касьцёл Сьв. Роха на Залатой Горцы.

Духовую апеку над Беларусамі-каталікамі ў Менску і ў цэлай усходняй Беларусі несьлі капэляны нямецкае арміі або лятувіскіх, славацкіх ці іншых вайсковых адзінак, разьмешчаных на Беларусі.

Гарадзкая ўправа праз свой аддзел асьветы й культуры старалася захаваць ад зьнішчэньня, як помнікі архітэктуры, сьвятыні іншых веравызнаньняў, помнікі гістарычных падзеяў Менску ды аб'екты цывільнага будаўніцтва ў традыцыйным беларускім стылі.



Менская Харальная сынагога, перабудаваная ў Расейскі Дзяржаўны тэатр па апошняй вайне.

Перад самай эвакуацыяй Менску ўжо, у чырвені 1944 г., спэцыяльная камісія аддзелу краязнаўства Беларускага Культурнага Згуртаваньня, абыйшла старыя кварталы гораду ды сфатаграфавала аб'екты, якія, як прадбачвалася, могуць быць зьнішчаныя бальшавікамі пасьля заняцьця Менску.

**Антон Шукелайць**

# ГІМНЫ РОДНАМУ СЛОВУ

**Ад Рэдакцыі:** У беларускай літаратуры ня знойдзецца, бадай, паэта, які не прысьвяціў-бы сваіх натхнёных паэтычных радкоў услаўленьню роднае мовы, не апяяў ейнае прыгажосьці й несьмяротнасьці, ня склаў ёй прысягі на вернасьць.

Ці не найбольшым імпульсам гэтых пачуцьцяў любасьці да мовы бацькоў праз усе пакаленьні беларускіх паэтаў Беларусі было адчуваньне пагрозы сьмерці мовы, а з гэтым — і сьмерці народу. Крык душы ставаўся зброяй абароны...

Ня вызбыліся трывогі за родную мову й сучасныя беларускія патрыёты Беларусі. Газэта „Чырвоная зьмена" (11 студзеня 1984), прыкладам, у артыкуле „Мова маці маёй — беларуская мова", падала вельмі паказальнае выказваньне вучня аднае зь сярэдніх школаў Менску Паўла Леановіча пра міжнародны зьезд славістаў, што адбыўся ў Кіеве ў верасьні 1983 г. і на якім брытанскі прафэсар Арнольд МакМілін выступаў з дакладам пра Янку Купалу й Тараса Шаўчэнку ды чытаў свой даклад пабеларуску: „Мне вельмі спадабаўся гэты зьезд, — напісаў Павал Леановіч у сваім хатнім заданьні-водгуку на тэлеперадачу ў сэрыі „Роднае слова", у якой расказвалася пра кіеўскі зьезд славістаў і беларусістыку на ім. — Я ўпэўніўся, што наша мова не памрэ, калі ёй цікавяцца столькі вучоных і простых людзей у розных краінах". Адкуль у менскага школьніка гэтае адчуваньне, што беларуская мова магла-б і „памерці"?..

Пагатоў адчуваюць трывогу за роднае слова паэты, для якіх мова становіць рацыю іхнага быту, існасьць таго, чым і кім яны хочуць быць. Вось чаму паэты сучаснае Беларусі, і асабліва маладыя ды наймалодшыя, дружным хорам пяюць гімны роднаму слову, падаюць голас на абарану яго, на ўслаўленьне, на ўвекавечненьне. Усё новыя й новыя пакаленьні паэтычнае моладзі як-бы адгукаюцца і на славутую перасьцярогу Францішка Багушэвіча і на заклік свайго старэйшага літаратурнага брата ды настаўніка Ніла Гілевіча, які ў 1965 г. зварачаўся да „юных паэтаў":

Сьпявайце, помнячы нязьменна:
Пакуль паэты будуць пець —
Ня быць Радзіме бязыменнай,
Зямлі бацькоў — не анямець.

У Песьнях, каб не анямела Радзіма, найглыбейшыя і найшчырэйшыя пачуцьці выказваюцца ў вершах-гімнах роднаму слову. Пацьверджаньнем гэтаму няхай будуць, зьмешчаныя на гэтай старонцы, вершы некаторых маладых і наймаладзейшых песьняроў Беларусі, узятыя — па адным ад кожнага — з розных савецкіх друкаваных крыніцаў за апошнія пяць гадоў.

**Эдуард Акулін**

### ІСЬЦІНА

*Помні гэтыя словы:*
*Радзіма,*
*Народ, Мова!*
*Як ісьціну помні адзіную:*
*Мова,*
*Народ, Радзіма!*
*Помні, як запавет —*
*спасьцігнуць яе аднойчы*
*зьявіўся і ты на сьвет.*

*1984*

**Раіса Баравікова**

***

*У кожным слове ёсьць мастацтва,*
*жыве па прынцыпу адным, —*
*аднойчы ўступіш у сваяцтва,*
*не назавеш павек чужым.*

*І з гэтай простаю высновай*
*У моцу сіл сваіх пяеш,*
*са слова пачалася мова,*
*а што я, людзі, безь яе?!*

*1980*

**Рыгор Барадулін**

***

*Мы — тыя ракаўкі,*
*ў якіх дасюль*
*Гул*
*акіяну мовы не змаўкае.*
*Бо продкі ўберaглі*
*ад стрэл, ад куль,*
*Як зь берагамі,*
*акіян зь вякамі.*
*Пакуль мы ёсьць*
*у зьменлівым жыцьці,*
*Пакуль зьвяраем*
*думак ход*
*па ходу*
*Надзеі,*
*будзе акіян гусьці*
*На непагадзь,*
*вяшчуючы пагоду.*

*1984*

**Генадзь Дзьмітрыеў**

***

*Усяму свая патрэба:*
*Лугу — звон пчалы руплівай,*
*Жаўруковай песьні — неба,*
*Каласом жытнёвым — ніва.*

*Парусом патрэбен вецер,*
*Першацьвету — дождж вясновы...*
*Мне-ж мілей за ўсё на сьвеце —*
*Слухаць гукі роднай мовы.*

*Чую я ў тых гуках сьветлых*
*Звон пчалы і нівы пошум,*
*Лійня шэпат, посьвіст ветру,*
*Жаўруковай песьні пошчак.*

*І калі мой час настане*
*Ціхім сном навек забыцца —*
*Перад тым на разьвітаньне*
*Дайце словам наталіцца.*

*1983*

**Валеры Дранчук**

### МОВА

*Мова, ты — груд каменьняў*
*на вяршыні гары,*
*калі вораг майго народу*
*там унізе.*

*Мова, ты — матылёк лёгкакрылы*
*на далоні маёй,*
*калі неба над родным краем*
*у хварбах шчасьця.*

*1982*

**Кастусь Жук**

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА

*Мова маці!*
*Мне на вяку*
*Саладзей тваіх слоў — ня будзе.*
*Ты ўвабрала*
*зязюль „ку-ку",*
*Грай вятроў,*
*пяруноў перагудзьдзе...*

*У расчынены твой пакой*
*Я ўваходжу,*
*нібыта ў хорам,*
*Дзе бруіцца*
*Вякоў неспакой*
*Незабытым*
*дагэтуль*
*горам.*

*Спапялёнай — ты ня была.*
*Хоць і секлі цябе бізунамі,*
*Хоць палілі —*
*а ты жыла,*
*Каб*
*Сузорыцца сёньня з намі.*

*Адрачэньне*
*Ад слоў бацькоў —*
*Гэта значыць — зямлі цураньне.*
*Ты крынічыла*
*ў жылах спакон*
*Маіх прашчураў, як яднаньне.*

*І напевам сугуччаў тваіх*
*Маё сэрца і думкі сагрэты.*
*Сьветла рад я*
*за слоў ускалых:*
*Ты — гаворыш з мовамі сьвету!*

*1981*

**Ала Канапелька**

***

*Родная мова,*
*Радзімае слова,*
*Полымя зорных калін.*
*Песьні вясновай*
*Заткана аснова,*
*Словам бацькоўскай зямлі.*

*Шчасьцем і горам*
*Прайду з гэтым словам,*
*Як мой народ і мой край.*
*Пад жаўруковым,*
*Пад пяруновым*
*Небам*
*адбыцца мне дай,*
*Роднае слова!*

*1983*

**Алесь Каско**

### МУЖНАЯ МОВА

*Асьцярожны да кожнага слова,*
*як мой дзед —*
*да зярнят пры сяўбе.*
*Мая мужная*
*родная мова,*
*ты змагла*
*пастаяць за сябе.*

*Шмат разоў*
*спрабавалі чужынцы*
*тваю музыку-сьпеў*
*паланіць,*
*ды зьвінела ты*
*ветрам у жыце,*
*рэхам пушчаў*
*і срэбрам крыніц.*

*Ты ўвабрала*
*ў пялёсткавы гоман,*
*у пяшчотны*
*вясновы напеў*
*подых буры,*
*і грукаты грому,*
*і маланак*
*распаленых гнеў.*

*1979*

**Аня Кашуба**

***

*Дзе вы, дзе вы — словы-напевы,*
*Словы-пялёсткі, словы-рамонкі?*
*Хай прынясуць вас ветру напевы.*
*Пошум хлябоў ці лесу гамонка.*
*Хай прынясуць вас птушкі*
*на крылах,*
*Дождж
ык, як кветкі, пасее ў зямлю.*
*Я роднае слова, як маці, люблю,*
*Бо першай матуля яго навучыла.*
*Плесьці вянок пачала зь іх вясновы,*
*Каб не прайшоў не заўважыўшы*
*хтосьці.*
*Вы, землякі, прыяжджайце у госьці,*
*Вашы дарункі мне —*
*родныя словы.*

*1979*

**Халімон Клін**

### БАЙКА ПРА БАЙКАРА

*Ваўкі загрызьлі ў лесе*
*Байкара,*
*За неахайнасьць мовы*
*Пакаралі.*

*Варона*
*Каркнула*
*Замест маралі:*
*— Даўно пара!*

*1983*

**Уладзімер Мазго**

### РОДНАЯ МОВА

*— Ты адкуль бруішся,*
*Мова!..*
*— Зь сініх нёманскіх крыніц...*
*Па зямлі зьбіраю словы,*
*Нібы россыпы суніц.*
*Мілая, адзіная,*
*Нам, нашчадкам,*
*Дадзена*
*Любаю радзімаю*
*Ад дзядоў і прадзедаў.*
*Хай вядзьмараць*
*Навальніцы,*
*Сьнегападаў касякі,*
*А табе вяк: бруіцца,*
*А затым*
*Яшчэ вякі!..*

*1982*

**Зьмітрок Марозаў**

***

*Землякоў пазнаю па мове,*
*Мэлядычнай, як песьня жней,*
*Дзе пяшчотна у кожным слове*
*Да глыбіняў душы кране,*

*Па напеве жанчын у сьвята:*
*„. . . у чужым двары ваду бяру . . ."*
*І па ветлівасьці рук шурпатых . . .*
*Землякоў пазнаю па дабру.*

*1982*

**Уладзімер Марук**

### МОВА

*Не пабілі цябе капытамі,*
*І ня вычарпаў шолам цябе.*
*Мы па-свойму жылі, засявалі.*
*Размаўлялі па-свойму ў сяўбе.*

*Гандлявалі ды грэбвалі намі,*
*Як апошнімі ў сьвеце людзьмі.*
*Пан валодаў палямі, лясамі,*
*Сваёй мовай валодалі мы.*

*Уськіпалі і гасьлі пажары,*
*Праглынала нявоЛя гады,*
*Працінялі пакутныя мары*
*Стрэмкай набрыдзі,*
*стрэмкай брыды.*

*Ды заўсёды такою высокай,*
*Недасяжнай чужынцам была*
*І крыляла ў гвалтоўным паўзмроку*
*Зоркай вечнага ў душах сьвятла.*

*Скрозь напятыя лукі і жылы*
*Над пакутна-маркотнай зямлёй*
*Неадольныя біліся крылы*
*Беларускае мовы маёй.*

*1982*

**Алена Парфеянец**

### МОВА

*Можа з глыбінь крынічных,*
*З музыкі крыл птушыных,*
*З трывожнай мэлёдыі ветру,*
*З паху вясновых траў,*
*З подыху хмар навальнічных,*
*Зь белага цьвету рабіны,*
*З зорнай пяшчоты сьветлай*
*Гукі нехта зьбіраў.*
*І іх, як расінкі-сьлёзы,*
*Спавіў прамянямі сонца,*
*Каб узыйшла над сьветам*
*Самаю казачнай зь яў.*
*Ты ў жыцьцёвай дарозе*
*Будзеш маёй абаронцай,*
*Будзеш маім запаветам,*
*Родная мова мая.*

*1979*

**Людміла Паўлікава**

### РОДНАЕ СЛОВА

*На базары чаго не пачуеш?*
*Але гэта да сэрца бяру:*
*— Чым, дзядуля, людзей тут*
*частуеш?*
*Агуркі? Гэта мне па нутру!*
*— Ай, зірніце, — са мной*
*палічыўся, —*
*Што-ж за словы бяру ў сваякі!*
*Толькі дзе-ж гэта ты навучыўся?*
*Бачу я, чалавек гарадзкі . . . —*
*О, матуля, зямля маіх продкаў!*
*Ці маглі яны ў думцы ўяўляць,*
*Што калісьці іх слова зваротам*
*Мы дзяцей тваіх будзем*
*зьдзіўляць?*
*Ні лаза, ні прысмакаў спакуса*
*Беларусаў скарыць не магла,*
*Зьневажаньнем вяльможнага густу*
*Мова ўсё-ж такі ўпотай жыла.*
*Мовы розныя мы вывучалі,*
*Каб у згодзе з суседзямі быць,*
*Нават лепшае ў іх пазычалі,*
*Каб сваю багацейшай рабіць.*
*Хто-ж другую матулю шукае,*
*Хто цураецца роднай крыві?*
*Родным словам гучы, любы краю,*
*Ў кожным сэрцы Купалам жыві!*

*1980*

**Міхась Радоўскі**

### МАЯ ЗЯМЛЯ

*Тут кожнае слова*
*Гучыць адмыслова,*
*Вытокі твае тут,*
*Матчына мова.*
*І родныя песьні,*
*І сьцежкі юнацтва,*
*Дзе мне давялося*
*З каханьнем спаткацца.*
*А шчырае дружбы,*
*А шчасьця ці мала*
*На гэтай зямлі*
*Маё сэрца спазнала.*
*Тут людзі*
*І поле, якім пакланюся.*
*Зямляцтвам я зь імі*
*Заўжды ганаруся.*

*1981*

**Алег Салтук**

### СЛОВА

*Спачатку слова,*
*А слава — потым.*
*Жыві ў ахвоту.*
*Працуй да поту.*
*У век двурушны,*
*У век суровы*
*Шукай высновы*
*У яве слова*
*Бацькоўскай мовы!*

*1984*

**Юрась Сьвірка**

### СЛОВЫ

*У нас сваіх хапае слоў*
*Крамяных, росных, васільковых*
*Ад мурагоў і ад лясоў,*
*Ад сьветлых высяў жаўруковых.*

*У нас хапае слоў сваіх*
*(Іх пазычаць няма патрэбы)*
*Ад чыстых даляў веснавых,*
*Ад глыбіні улетку неба.*

*Сваіх хапае слоў у нас*
*Суровых, мужных, як яднаньне,*
*Яны гучаць у грозны час*
*І заклікаюць на змаганьне.*

*У нас хапае слоў такіх*
*Чысьцюткіх, ядраных, як раньне.*
*Яны выказваюць услых*
*Пяшчоту, ласку і каханьне.*

*Хапае слоў і гаманкіх,*
*І мяккіх, як у лузе травы,*
*Ствараючы, шліфуюць іх,*
*Але не для сваёй забавы.*

*У нас хапае рэдкіх слоў,*
*І палюбі ты іх бязьмежна.*
*Яны ад чысьціні сьнягоў*
*І ад пялёсткаў беласьнежных.*

*Яны ўвабралі звон крыніц,*
*Шум лесу і дыханьне ночы . . .*
*Ад лійняў і ад навальніц —*
*Грымяць,іскрацца і шапочуць.*

*Журыцца ўмеюць і зьвінець,*
*Сьпяваць у шумным карагодзе.*
*Іх трэба сэрцам разумець*
*І выслухоўваць у народзе.*

*1983*

**Мікола Трафімчук**

### МОВА

Калектыву вакальна-інструмэнтальнага ансамблю „Песьняры"

*Спакон вякоў*
*ад Крывічоў далёкіх*
*брадзіла,*
*сьпела,*
*пенілася брагай*
*да самых*
*недасяжлівых аблокаў*
*напеўных слоў*
*нястоленая прага.*
*Зямлю*
*лапцямі*
*прадзеды мясілі,*
*гады лічылы*
*дбайныя зязюлі...*
*Мужнелі продкі,*
*гадавалі сілы,*
*ніякія каб злыдні*
*не кранулі:*
*ніякая каб нечысьць*
*не скарыла*
*крывіцкай*
*„рускай, Богам данай"*
*мовы,*
*каб некалі пасьля*
*Францыск Скарына*
*увекавечыў*
*дарагія словы;*
*каб бунтароў*
*будзілі цуда-гусьлі,*
*пужалі*
*лютых ворагаў спрасоньня...*
*На той-жа мове*
*вольнай Беларусі*
*нашчадкі песьняроў*
*сьпяваюць сёньня.*

*1979*

**Антаніна Ціханчук**

***

*На мове сваёй,*
*Што ў сабе ўвасабляе*
*Душу Беларуса,*
*І шчодрасьць Радзімы,*
*Якой ганаруся,*
*Дзе дым верасоў*
*Затуманіў мой погляд*
*Шчасьлівай сьлязою,*
*Дзе пахнуць лясы*
*Жураўлінай тугою,*
*Дзе зорка-пралеска*
*Бялее і вабіць,*
*Як шчасьце, на ўзьлеску.*
*На мове сваёй,*
*Што зьвініць і сумуе,*
*Як сьпеў салаўіны,*
*Як плач перапёлкі,*
*Як чырвань каліны,*
*Скажу табе, любы,*
*Цябе я кахаю!*

*1982*

**Вольга Шпакевіч**

### МАЯ ЗЯМЛЯ

*У марозы, дажджы і слоту,*
*Летняй сьпёкаю ці вясной*
*Акрыляе зямля для ўзьлёту,*
*А ў паводку дае вясло.*

*Вабіць лес гаманлівы песьняй,*
*Акіянам ляжаць палі,*
*Б'юць крыніцы з глыбінь*
*Палесься —*
*Граюць сокі маёй зямлі.*

*Адчуваю, якое шчасьце:*
*Мовай роднаю гавару,*
*Вымаўляю, як слова*
*маці,*
*Слова сьветлае —*
*Беларусь.*

*1981*

 



# ПАМЯЦІ УЛАДЗІМЕРА КАРАТКЕВІЧА



Пісьменьнік Уладзімер Караткевіч (26.XI.1930 — 25.VII.1984)

Беларуская літаратура панесла сёлета 25 ліпеня вялікую страту — памёр пісьменьнік Уладзімер Караткевіч. Сёлета 26 лістапада Караткевічу споўнілася-б 54 гады.

Сучаснае беларускае прыгожае пісьменства ня ведала такога аўтара, які-б, як Уладзімер Караткевіч, адначасна гэтак плённа працаваў у паэзіі, у прозе, у драматургіі ды ў літаратурнай крытыцы.

Калі думаеш пра Караткевіча-паэта, першым чынам хочацца гаварыць пра ягоныя баляды ды лірычныя, перапоўненыя глыбокімі эмоцыямі, вершы.

Калі нагадваеш Караткевіча-празаіка ці драматурга, дык адразу хочацца адзначыць ягоны ўклад у беларускую літаратуру сваймі гістарычнымі й прыгодніцка-дэтэктыўнымі творамі.

Калі зварачаешся ў думках да Караткевіча-нарысіста й літаратурнага крытыка, дык адразу-ж хочацца падкрэсьліць ягоны надзвычай разьвіты эстэтычны густ, тонкае вывучаньне мастацкага слова ды асаблівую творчую апантанасьць.

У Караткевічавых творах чытача вабіць эрудыцыя й дазнанасьць аўтара, глыбокі гуманістычны зьмест твораў:

Сьмерць Уладзімера Караткевіча — самая вялікая страта для сучаснае беларускае літаратуры, якую толькі можна сабе ўявіць.

Уладзімер Караткевіч належаў да таго пакаленьня беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў (як і Барадулін, Бураўкін, Чыгрынаў, Быкаў, Вярцінскі), якія пачалі друкавацца ў другой палавіне 1950-х — на пачатку 60-х гадоў. Паэты й пісьменьнікі гэтага пакаленьня ў вялікай ступені вызначаюць характар і адметныя асаблівасьці сучаснае літаратуры Беларусі. Кожны зь іх — яскравая й самабытная творчая індывідуальнасьць. Непаўторнай своеасаблівасьцяй вылучалася й творчасьць Уладзімера Караткевіча.

Караткевіч быў шчырым патрыётам свайго народу, свайго роднага краю. Патрыятычную ды гуманістычную тэму Караткевіч распрацоўваў найчасьцей у сваіх гістарычных творах: раманах і аповесьцях, вершах і апавяданьнях. Гэткія раманы, як „Каласы пад сярпом тваім", „Хрыстос прызямліўся ў Гародні", „Чорны замак Альшанскі" ды аповесьць „Дзікае паляваньне караля Стаха", напісаныя на матар'яле гісторыі Беларусі. Крытыкі слушна казалі пра Караткевіча, што гэта — беларускі Вальтэр Скот.

Галоўнай мэтай, якую ставіў перад сабой Караткевіч-пісьменьнік, было давесьці, паказаць, што ў беларускага народу была свая багатая мінуўшчына, што мінуўшчына гэтая можа стацца крыніцаю творчага натхненьня й мастацкага ўвасабленьня. Вытокі народнага, нацыянальнага Караткевіч бачыў у гістарычным. Аднак гэта ня была спрошчаная ідэялізацыя сівое мінуўшчыны, гэта была спроба ўваскрасіць у літаратурных творах гэраічныя й трагічныя старонкі быцьця свайго народу. Зь нязвычайным болем і глыбокім лірычным пачуцьцём пісаў Караткевіч у вершы пра Паўлюка Багрыма, паэта пачатку XIX стагодзьдзя — пра гэтага загубленага генія, беларускага песьняра, які мог-бы вырасьці ў вялікага паэта:

Мог-бы славай грымець
Сярод годных паэтаў Эўропы, —
Гвалтам спуталі ногі,
Трымалі ўвесь час за руку.
Што пакіне ён? —
Вершык у памяці хлопаў,
Кандэлябру ў касьцёле
Ды кроў на гаручым пяску.

З гэткім моцным грамадзянскім талентам, як у вершы „Паўлюк Багрым", Караткевіч выразна выяўляецца і ў сваіх раманах, апавяданьнях, нарысах, крытычных нататках. І як несправядлівымі й крыўднымі былі Караткевічу абвінавачаньні яго з боку некаторых партыйных крытыкаў. У газэце „Советская Белоруссия", прыкладам (у нумары за 6 верасьня 1965 г.), Якаў Герцовіч пісаў, што ў аповесьці „Дзікае паляваньне караля Стаха" ды ў рамане „Каласы пад сярпом тваім" Караткевіч „робіць спробу адыйсьці ад агульна прынятых ацэнак і па-свойму зірнуць на гісторыю". „Можна нават сказаць больш, — зьдзекліва іранізаваў Герцовіч: — аўтар упэўнена высоўвае ўласную філязофію гісторыі, зь якой мы яшчэ ня сустракаліся ані ў грамадзкай навуцы ані ў літаратуры". Чаго толькі ні выпісваў прававерны партыйны крытык Герцовіч пра творы Караткевіча: што гэта й эпігонства, і наіўнае тварэньне гісторыі, і абмежаванасьць гістарычнага гледзішча, і што раман „Каласы пад сярпом тваім" — ідэялізацыя мінуўшчыны ды шмат да гэтага падобнага.

А нейкі крытык Жога ў газэце „Літаратура і Мастацтва" (у нумары ад 3-га лютага 1970 г.) выступіў быў супраць Караткевічавага нарысу „Званы ў прадоньнях азёр" („Маладосьць", 1969, № 12). Нарыс гэты прысьвечаны мінуўшчыне Палесься, гарадом Тураву, Мазыру, Нароўлі. Жога пісаў: „Ну, а што вабіла, цягнула на Палесьсе нашых падарожнікаў? Як ні дзіўна, але ня тое новае, што прыйшло сюды за гады савецкай улады. І фоталетапісец, і мастацтвазнаўца, і асабліва літаратар (маецца на ўвазе Караткевіч — А. В.) захапляліся ня тым, што адкрывалася іхным вачом з палубы параходу, а тым, што было тут калісьці, даўней... Зацямняць мінулым сучаснае, мякка кажучы, нельга".

На падобныя абвінавачаньні, якія выстаўляліся ў тон дэнацыяналізатарскай палітыцы кампартыі на Беларусі, Караткевіч адказваў сваймі гістарычнымі раманамі, заяўляючы, фактычна: зацямняць сучасным мінулае таксама нельга! І ў гэтым ён знаходзіў шырокае падтрыманьне як сярод масавага беларускага чытача, гэтак і сярод бальшыні крытыкаў.

У распрацоўваньні гістарычнае тэматыкі Караткевіч дасягнуў асаблівых удачаў. Безь перабольшаньня можна сьцьвярджаць, што для сучаснае беларускае літаратуры Уладзімер Караткевіч быў тым, чым быў Янка Купала для літаратуры нашаніўскае пары. У сваіх гістарычных раманах „Каласы пад сярпом тваім", „Чорны замак Альшанскі", аповесьці „Дзікае паляваньне караля Стаха" Караткевіч узьняў шырокія пласты народнага жыцьця, выявіў валатоўскія характары, выказаў глыбокія й гарачыя пачуцьці, адтварыў у мастацкіх вобразах гісторыю свайго краю. Мінуўшчына Беларусі для Караткевіча была цікавая ў тым пляне, які ўплыў яна рабіла на духовы сьвет Беларуса, на ягоную грамадзкую і гістарычную сьведамасьць. Для Караткевіча найбольш важна было асэнсаваць падзеі далёкіх часоў, раскрыць дачыненьні паміж людзьмі, пранікнуць у псыхалёгію сваіх гэрояў, паказаць талент Беларуса ў мінулым, ягоную духовую моц, паставіць гэтыя якасьці ў прыклад сучасьнікам. У духу радкоў ягонага натхненнага вершу, „Беларуская песьня":

Дзе мой край? Там, дзе людзі ніколі
ня будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў
безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі
ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы, — ударыш,
і зломіцца меч.
Дзе мой край? Там, дзе мудрыя
продкі у хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у
стагох на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А
сівыя матулі,
Як жніўё з павуціньнем і добрае
сонца ўгары.
Там зьвіняць няўмiручыя песьні на
поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова,
булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не
забудзем,
Калі сонца зь зямлёю ў апошні
заглыбяцца змрок.

Уладзімер Караткевіч быў высака адукаваны, інтэлігентны, сьціплы чалавек, вельмі ўважлівы да турботаў сяброў і бліжэйшых знаёмых. Гэткім Караткевіча будуць заўсёды памятаць тыя, хто яго знаў, паважаў і цаніў ягоную творчасьць.

**Алесь Васілеўскі**

# АЛЕСЮ КАРПОВІЧУ 75 ГАДОЎ

У гутарцы з рэдактарам „Беларуса" др. Я. Запруднікам кампазытар і музыкавед Алесь Карповіч адказаў на пытаньні, павязаныя зь ягоным жыцьцёвым і творчым шляхам.

**„Беларус":** Калі Вы ўпяршыню пазнаёміліся зь беларускай песьняй?

**Карповіч:** Яшчэ ў маленстве, калі мы ўсёй сям'ёй прыяжджалі да дзеда, настаўніка ў мястэчку Азёркі каля Горадні, я заслухоўваўся народнымі песьнямі, якія пяялі сяляне. Пазьней, калі майго бацьку (ён быў юрысты) перавялі на службу на Каўказ, я з захапленьнем слухаў своеасаблівыя напевы горскіх народнасьцяў.

Беларускія песьні часта сьпяваў у вольным часе бацька, ён меў невялікі , але прыемны голас. Асабліва падабалася яму песьня „У нядзельку раненька".

Калі я пачаў вучыцца ў музычным тэхнікуме ў горадзе Уладыкаўказе, дык прабаваў запісваць гэтыя песьні, але хутка пераканаўся, як шмат трэба ведаць, каб добра запісаць і апрацаваць народную мэлёдыю. Тады маёй мэтай стала вывучэньне музычнатэарэтычных навукаў і, як толькі зьявілася нагода, я залічыўся на гісторыкатэарэтычны факультэт Маскоўскай кансэрваторыі, які скончыў у 1937 годзе.

**„Б":** Ці захавалі Вы зацікаўленьне да беларускае песьні ў часе занятkaў у кансэрваторыі?

**К:** Так, у сваіх студэнцкіх працах я часта выкарыстоўваў беларускія мэлёдыі, якія заўсёды прыцягвалі ўвагу маіх пэдагогаў і сяброў сваёй непасрэднасьцяй і сьвежасьцю. У студэнцкім інтэрнаце я жыў разам із студэнтам факультэту народных інструмэнтаў Беларусам Зіновічам, які ведаў шмат песьняў і ахвотна знаёміў мяне зь імі.

**„Б":** Як склаўся Ваш далейшы жыцьцёвы шлях па сканчэньні кансэрваторыі?

**К:** Я дамогся, каб мяне накіравалі на працу ў Беларускую Дзяржаўную Кансэрваторыю ў Менску. Сярод пэдагогаў кансэрваторыі былі выдатныя кампазытары й музыкаведы: Аладаў, Шнітман, Мацісон, Зубковіч, Залатароў, вучняў якога, маладых кампазытараў Лукаса, Багатырова, Алоўнікава, Падкавырава я добра ведаў. Блізка пазнаёміўся я з цудоўным чалавекам, таленавітым кампазытарам, зьбіральнікам і дасьледнікам беларускага музычнага фальклёру Міколам Равенскім. Гэтае знаёмства дало мне вельмі шмат. Я пазнаў мноства беларускіх песьняў у запісах Равенскага ды шмат чаго зразумеў у своеасаблівасьцях іхнай інтанацыйнай пабудовы. На гэтую тэму, з дапамогай і кансультацыяй Равенскага, я задумаў навукова-тэарэтычную працу, але ўжыцьцёвіць гэты задум перашкодзіла вайна.

**„Б":** Якое месца займала беларуская музыка ў вучэбным працэсе менскай кансэрваторыі?

**К:** Ня толькі беларуская музыка, але й беларуская мова займалі зусім нязначнае месца. Усё выкладаньне вялося парасейску, хоць многія пэдагогі й студэнты дасканала ведалі беларускую мову. У студэнцкіх канцэртах толькі ансамбль цымбалістых час ад часу



Кампазытар Алесь Карповіч

выконваў апрацоўкі беларускіх мэлёдыяў. На працягу вучэбнага году адбываліся адзін ці два паказы творчасьці маладых кампазытараў, на якіх я, у сваіх уступных словах, аналізаваў іхныя творы.

**„Б":** Кажуць, што, калі грымяць гарматы, дык музы маўчаць. Ці спыніла вайна Вашу музычную дзейнасьць?

**К.:** У часе вайны ў Менску засталіся кампазытары Куліковіч, Туранкоў, Зубковіч, Самохін, Спаскі, Равенскі й я. Зразумелая рэч, калі навокал руіны й няма ніякае пэўнасьці, ці будзеш ты жывы заўтра, было немагчыма заняцца сыстэматычнай навуковай ці кампазытарскай працай. Але ўсе нешта рабілі. Што да мяне, дык я напісаў шэраг нарысаў зь гісторыі беларускай музыкі для „Менскай газэты", пісаў манаграфічныя ці гістарычныя артыкулы пра кампазытараў Самохіна, Спаскага, Шчаглова, пра старадаўныя беларускія народныя звычаі, павязаныя з музыкай. Артыкулы гэтыя былі надрукаваныя у рыскім часапісе „Новы Шлях", які рэдагаваў Ул. Сядура. Мая „Сюіта на беларускія тэмы" і апрацоўкі песьняў загінулі пры пажары ў маім доме.

**„Б":** Раскажэце пра паваенны пэрыяд Вашага жыцьця.

**К:** Трапіўшы па вайне ў украінскі ДП лягер пад Гамбургам, я там шмат працаваў у творчай і пэдагагічнай дзялянках, меў вучняў у музычнай школе, напісаў шэраг рамансаў на словы ўкраінскіх паэтаў, кіраваў опэрнымі пастаноўкамі ў лягерным тэатры. З твораў для фартэпіяна былі напісаныя: саната, баляда на тэму „Пальночак", „Полька-Янка", прэлюдыі ды шмат іншых дробных рэчаў. Ставіліся да мяне Украінцы вельмі добра, але цягнула да сваіх людзей, і пры першай магчымасьці мы перабраліся ў беларускі лягер Зэедорф каля Брэмэрфордэ, дзе я спаткаўся з др. Вітаўтам Тумашам, Юркам Сяньkoўскім і Ул. Сенькам. Да гэтага часу належаць рамансы на словы беларускіх паэтаў (тэкстамі часта дапамагаў др Тумаш) і апрацоўкі беларускіх песьняў, якія ўдала выконваў Юрка Сяньkoўскі.

Вельмі прыемнымі ўспамінамі засталіся мае частыя падарожжы да беларускага студэнцкага хору ў Лювэне ў Бэльгіі, дзе я ізноў спаткаўся з маім старым сябрам, кіраўніком лювэнскага хору, кампазытарам Равенскім. Ягоныя апрацоўкі беларускіх песьняў, якія ён зрабіў для свайго хору, былі з мастацкага боку запраўды ўнікальнымі і карысталіся вялікім посьпехам усюды, куды мы прыяжджалі з канцэртамі, у якіх я суправаджаў хор на фартэпіяна, выконваў свае ўласныя кампазыцыі ды акампаняваў выдатнаму беларускаму сьпеваку Пётру Конюху. Для яго я напісаў „Песьню князя" на словы Я. Купалы.

Гэта былі цудоўныя, незабыўныя часіны. Сяргей Ясень пісаў лірычныя, даходлівыя сваёй юнацкай сьвежасьцяй вершы, якія лёгка кладліся на музыку. Гэтыя непатрабавальныя, простыя песьні ахвотна выконвалі „салістыя" хору Ю. Сяньkoўскі і Ул. Цьвірка і нават напялі іх на кружэлкі. Пад уплывам Равенскага я напісаў кантату „Апокрыф" для хору, салістых і чытача на тэкст М. Багдановіча.

**„Б":** Як склалася Вашае жыцьцё ў Заходняй Нямеччыне?

**К:** Пасьля таго, як канчаткова высьвятлілася, што мы, дзеля хваробы дачкі ня маем шанцаў на выезд у ЗША, мы пасяліліся ў Ольдэнбургу, дзе я спадзяваўся хутчэй знайсьці працу як настаўнік музыкі. Па некаторым часе беспрацоўя мне пашанцавала знайсьці працу ў музычнай школе ў якасьці выкладчыка ігры на акардыёне. Пасьля да гэтага далучыліся гітара, блёк-флейта й фартэпіяна. Працы было шмат, і гэта было ня зусім тое, чаго мне хацелася, але я быў шчасьлівы, што ўрэшце скончылася беспрасьветнае лягернае жыцьцё. Прыгнятала толькі тое, што ў горадзе й навокала зусім ня было Беларусаў. Праўда, газэты й часапісы дапамагалі трымацца ў курсе грамадзкага жыцьця.

У музычнай школе працаваў я блізу 25 гадоў, пакуль ня выйшаў на пэнсію. Увесь вольны ад працы час я аддаваў кампазыцыі. Напісаў шмат песьняў на беларускія тэксты, якія мне час-часом падкідваў др Запруднік, беларускія прэлюдыі, пэдагагічныя п'есы ды іншае. Таксама рабіў аранжыроўкі для нямецкіх хораў. Праз увесь час была ў мяне сталая сувязь з кампазытарам-музыкаведам Эльзай Зубковіч. У лістох мы дзяліліся творчымі думкамі, перасылалі адзін аднаму для крытычнага прагляду й рэдакцыі новыя творы. Мае фартэпіянныя творы яна выконвала на канцэртах, пэдагагічныя кампазыцыі выкарыстоўвала ў лекцыях з вучнямі, вакальныя рэчы развучвала з дачкой, ведамай беларускай сьпявачкай Лізай Маркоўскай.

**„Б":** Якія кампазытары зрабілі ўплыў на Вашу кампазытарскую дзейнасьць?

**К:** Я люблю складаныя гарманічныя камплексы, танальныя насланеньні й тонкасьць нюансу кампазытараў Скрабіна й Дэбюсы. Магчыма, што ў маіх творах для фартэпіяна можна знайсьці іхныя водгаласы.

**„Б":** Вершы якіх беларускіх паэтаў найбольш прываблівалі Вашу творчую ўвагу?

**К:** У творчасьці амаль усіх беларускіх паэтаў я знаходзіў цудоўныя вершы, якія адразу хацелася пакласьці на музыку. З паэтаў на чужыне мне вельмі падабаюцца Масей Сяднёў, Рыгор Крушына й Міхась Кавыль.

**„Б":** Над чым працуеце Вы цяпер, якія маеце творчыя пляны?

**К:** Якія творчыя пляны могуць быць, калі на карку 75 гадоў і да таго яшчэ розныя хваробы? Цяпер я, галоўным чынам, перагледаю й рэдагую свае творы, але хацеў-бы напісаць песьню на адзін з новых вершаў Міхася Кавыля ды скончыць артыкул пра беларускае музычнае жыцьцё у дарэвалюцыйным Менску.

**„Б":** Што-б Вы хацелі пажадаць на будучыню нашаму беларускаму грамадзтву на чужыне?

**К:** Я хацеў-бы, каб беларуская музыка займала больш месца ў грамадзкім жыцьці ды каб яна карысталася большай увагай і падтрымкай з боку нашых культурна-асьветных арганізацыяў, каб больш беларускай моладзі брала ўдзел у хорах ці танцавальных гуртках, рэпэртуар якіх мусіць быць рознастайным і цікавым. Беларуская песьня — гэта нашае нацыянальнае багацьце, якім мы з правам можам ганарыцца й пачэсна рэпрэзантаваць сябе ўва ўсім сьвеце.

 

*З ЖЫЦЬЦЯ Ў АЎСТРАЛІІ*

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

Пятрапаўлаўская царква ў Адэляйдзе адзначыла 15-га ліпеня сёлета сьвята сваіх патронаў Пятра й Паўла, а разам з тым і 20-годзьдзе пасьвячэньня нашай сьвятыні. На гэтую ўрачыстасьць былі запрошаныя й прыбылі госьці з Мэльбурну, з мэльбурнскага прыходу БАПЦ Сьв. Віленскіх Мучанікаў, а таксама госьці з украінскіх парафіяў у Адэляйдзе. На сьвяткаваньне прыехаў Мітртаф. Прат. а. Аляксандар Кулакоўскі зь сям'ёй ды іншыя асобы з Мэльбурну. Прысутнасьсь а. Аляксандра на сьвяткаваньні прыдала сьвяту больш урачыстасьці. Царква была перапоўненая вернікамі. Сьв. Літургію адправіў а. Яўгень Сітнік у суслужэньні з а. Аляксандрам. Надзвычайна прыгожа сьпяваў павялічаны хор. Айцец Аляксандар Жылінскі ня змог прысутнічаць на Літургіі, але быў на малебне ды, гэтаксама як і Мітр. Прат. А. Кулакоўскі, вітаў усіх беларускіх вернікаў са сьвятам. Багаслужба скончылася рэлігійным гімнам „Магутны Божа".

На супольным абедзе вітаў удзельнікаў сьвяткаваньня старшыня парафіяльнае рады сп. К. Станкевіч, коратка расказаў 20-гадовую гісторыю царквы, адзначыў вялікую заслугу Архіепіскапа БАПЦ Мікалая, ягоны прыезд у Адэляйду. Была ўшанаваная памяць сяброў парафіі, што на працягу 20-годзьдзя адыйшлі ў вечнасьць. Абед прайшоў у прыемнай атмасфэры.

Парафіяльная рада шчыра дзякуе Мітр. Прат. а. Аляксандру Кулакоўскаму й гасьцём з Мэльбурну за іхную дабрадзейнасьць, а таксама дзякуе ўсім парафіянам за актыўны ўдзел у рыхтаваньні й правядзеньні сьвята.

**Янка Яр**

## КУПАЛЬСКАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ

У сыботу 30.VI.1984 г. Аб'еднаньне Беларусаў у Заходняй Аўстраліі адзначыла ў „Беларускай Хатцы" старавечны беларускі абрад Купальля і аднача сна ўшанавала нашага слаўнага Песьняра-паэта, які тварыў пад псэўданімам Купала. Была праслуханая з кружэлкі песьня „Я ад вас далёка" (на словы Купалы) і прачытаны гэты-ж, Купалаў верш, у якім паэт кажа, што калі ён памрэ, дык цень ягоны „на крыж абапрэцца і ў той бок глядзеці будзе век нязводна, дзе ляжаць загоны Беларусі роднай". Нажаль, Купалаў цень ня мае на што абаперціся, бо камуністы не дазволілі паставіць крыжа на магіле Песьняра.

Старэйшыя сябры пры супольным пачастунку прыгадвалі, як, быўшы дзяцюкамі, сустракалі й праводзілі гэтую таямнічую й рамантычную, самую кароткую, але так даўгатрывалую ў нашых сэрцах і ў нашай памяці Купальскую Ноч.

**А. Мароз**

## ПАРАФІЯЛЬНЫ ПІКНІК

15 ліпеня сёлета парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе ладзіла гадавы пікнік на грамадзкім цэнтры „Полацак". А 11-й гадзіне раніцы была адпраўлена служба (абедніца) настаяцелям а. Страпком на палянцы ў лесе Полацку, на якую сабралася шмат вернікаў. Надвор'е было добрае. Адразу пасьля службы пачаўся пікнік супольным абедам, прыгатаваным з шматлікіх смачных страваў. Па абедзе ўдзельнікі праводзілі весела час у розных гульнях, гутарках; моладзь — у спартовых змаганьнях, а царкоўны й сьвецкі хоры ў пробах-сьпеўках, рыхтуючыся да Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Пікнік закончыўся позна ў вясёлым настроі й з добрымі вынікамі.

**К.П.**

## УВАГА!

Асобы, якія дастаюць газэту „Беларус" ад сп. **Б. Даніловіча,** павінны перадаваць падпіску й ахвяры яму, выпісваючы чэкі на ягонае імя ды перасылаць на ягоны адрыс:

Mr. B. Danilovich
303 Howard Street
New Brunswick, N.J. 08901

**Адміністрацыя „Беларуса"**

## 40-Я ЎГОДКІ Б.К.А.

Беларусы Вікторыі (Аўстралія) адзначылі 15-га ліпеня сёлета 40-я ўгодкі Беларускае Краёвае Абароны й Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Акадэмію ў Беларускім Доме адкрыў старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі сп. У. Сідлярэвіч, прывітаў прысутных, папрасіў ушанаваць памяць змагароў за свабоду Беларусі, што адыйшлі ў вечнасьць, прачытаў прывітаньні. Ён-жа прачытаў даклад на тэму дня. Урачыстая частка закончылася прасьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

У мастацкай частцы ўрачыстасьці мяшаны хор выканаў „Ідуць жаўнеры-Беларусы" й „Шкода, шкода мне краіны". Сп. П. Гуз прачытаў верш Р. Крушыны „Хто мы?" й „Сын жыве", а жаноцкі ансамбль выканаў „Колькі ў небе зор". Тады йзноў мяшаны хор — „Ой, Нёман" і „Зялёны дубочак". Імпрэза закончылася супольным пачастункам пры песьнях у застольлі й сяброўскіх гутарках.

**Мікола Скабей**

## СЯРЭБРАНАЕ ВЯСЕЛЬЛЕ

30-га чырвеня сёлета Беларусы Вікторыі (Аўстралія) мелі нязвычайна прыемную нагоду вітаць заслужаных у беларускім грамадзтве спадарства Аўгена й Надзю Грушаў зь іхным сярэбраным вясельлем. Былі гэта й 25-я ўгодкі іхнае грамадзкае працы.

Спадарства Грушы добра ведамыя сябром Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі як адданыя й ахвярныя грамадзкія працаўнікі. А таму на іхную ўрачыстасьць прыбыло ў Беларускі Дом больш за паўсотні асобаў. Удзельнікі банкету жадалі паважаным Юбілярам дачакацца здаровым ды жыцьцярадасным і залатога вясельля.

Варта адцеміць, што сп. Аўген Груша вельмі дбае пра чысьціню свае беларускае мовы, узяўшы, відаць, да сэрца перасьцярогу Багушэвіча — „Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі".

Бяседа прайшла пад беларускую музыку з касэтаў з танцамі ў вельмі вясёлай і цёплай атмасфэры.

Пры гэтай нагодзе сябры ўправы БЦК мелі магчымасьць абмяняцца думкамі аб Шостай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ды іншых бягучых справах. Прыемнае — з карысным.

**Удзельнік М.С.**

## ГАДАВЫ СХОД „ХАЎРУСУ"

У Парыжы ў нядзелю 8 ліпеня сёлета, пасьля багаслужбы (на Rue du Perche), адбыўся ў памешканьні Беларускае Каталіцкае Місіі (на Rue des Gravilliers) чарговы гадавы сход сяброў „Хаўрусу", аднае з найстарэйшых беларускіх арганізацыяў на эміграцыі. Новая ўправа была выбараная ў тым самым складзе: М. Наўмовіч — старшыня, Л. Шыманец — сакратар, А. Данільчык — скарбнік. У рэвізійную камісію ўвайшлі: сп.сп. В. Забаўскі, В. Бут-Гусаім і М. Хоміч.

На сходзе абмяркоўвалася пытаньне магчымае першае сутрэчы Беларусаў эўрапейскага кантынэнту ў 1985 г. ў Лёндане, а таксама справа адзначэньня 50-годзьдзя „Хаўрусу".

**М.Н.**

## УЗМАЦНЕНЬНЕ АТЭІСТЫЧНАЕ ПРАПАГАНДЫ

Месячнік „Народная асьвета", орган Міністэрства асьветы БССР, у артыкуле „Шляхі фарміраваньня перакананых атэістаў" (№ 7, 1984, б. 41), нагадвае настаўнікам словы партыйнага лідэра Чарненкі, што пад уплывам рэлігіі яшчэ застаецца частка людзей і частка, проста скажам, не такая ўжо малая". Часапіс дае парады настаўнікам, як актывізаваць сярод жыхарства атэістычную прапаганду.

У „Весьцях" АН БССР (№ 3, 1984), у арт. „Ленін аб сувязі рэлігіі і нацыяналізму", выказаная перасьцярога, што „ў ідэялягічнай дывэрсіі супраць беларускага народу" выкарыстоўваюцца Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква і Беларуская Каталіцкая Царква, якія, піша часапіс, „кансалідуюцца з нацыяналістычнымі групоўкамі беларускага паходжаньня — Беларуска-Амэрыканскім Аб'яднаньнем, Аб'яднаньнем Беларусаў у Вялікабрытаніі (маюцца наўвеце БАЗА і ЗБВБ — рэд. „Б-са") і інш."




**Мэмарыяльная дошка па сьв. пам. Станіславу Маку ў Брадфардзе (Ангельшчына). Нэкралёг гл. у „Беларусе" Но. № 312.**

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

**„Беларускі Сьвет" № 16 (54) — 1984.** 74 б. На вокладцы — партрэт праф. Ул. Сядуры-Глыбіннага, навукоўца й пісьменьніка. Зьмест: К. Старажоўскі — „Уладзімер Сядура-Глыбінны"; бібліяграфія працаў Ул. Сядуры-Глыбіннага замежнага пэрыяду; Міхась Белямук — „Смаленскі далучыўся"; Масей Сяднёў — тры вершы; Васіль Сініца — „Маё Мястэчка" (працяг успамінаў); Віктар Швед — верш; Арсень Ліс — „Прамаўляючы да сэрца" (нарыс пра Рыгора Шырму); Уладзімер Глыбінны — „Вялікія Дарогі" (працяг раману); Міхась Белямук — „У справе брашуры" (рэцэнзія на брашуру Л. Галяка „Паходжаньне літоўскіх князёў"); бібліяграфія новых выданьняў; гумар.

У нумары зьмешчаныя чатыры каляровыя распрацоўкі беларускага народнага арнамэнту Ч. Будзькі (для вышываньня).

З часапісам рассылаецца дадатак „Думкі й пагляды" (№ 6, 4 б.).

**„Зважай"** № 3(35), верасень 1984. 8 б. У нумары: перадавіца „Памажы, Божа!" (да Другой Сусьветнай Сустрэчы Беларускіх Вэтэранаў); працяг арт. др. В. Сянькевіча „У 190-я ўгодкі антымаскоўскага паўстаньня ў Беларусі"; заканчэньне арт. В. Сянькевіча „Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада"; хроніка, ілюстрацыі.

Мітрафорны Пратаярэй Павал Велікі. **Апостальскія Чытаньні ўва Ўсе Нядзелі Году і на Сьвяты.** Бяз даты. Друкарня Амэрыканска-Беларускага Рэлігійнага Цэнтру ў Саўт Рываэры, Н. Дж. (ЗША). 47 б.

**Я Сьвятло Сьвету... (Сьвятыя Беларускага Народу). Да тысячагодзьдзя хрышчэньня Беларусаў у хрысьціянства.** Выданьне Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на Чужыне, Нью Брансьвік,, Н. Дж., 1984. 54 б.

**Што трэба зрабіць, каб стацца хрысьціянінам паводля Эвангельля?** Бяз даты й месца выданьня. 11 б.

Майсей Гітлін. **Нацыянальная сьведамасьць Апостала Паўлы.** Таронта, выдавецтва „Добрая вестка", 1983. 12 б.

## НАБЫВАЙЦЕ КНІГУ ПРА М. БАГДАНОВІЧА

Выйшла з друку аповесьць Уладзімера Глыбіннага пра Максіма Багдановіча — „Пад лебядзіным знакам".

У аповесьці, на аснове Багдановічавае творчасьці й біяграфічных фактаў, аўтар малюе жыцьцёвы й творчы шлях ды грамадзкае наваколье клясыка беларускае літаратуры.

Пашырыць кніжку пра Багдановіча ўзялося, у сувязі зь цяжкой хваробай аўтара, выдавецтва газэты „Беларус". З кожнага прададзенага экзэмпляру сп-ня Сядура ахвяравала 30% **на газэту.** Цана кнігі — 9 даляраў.

## ПРА БЕЛАРУСЬ У ДАВЕДНІКУ

У сёлетнім 18-м выданьні „Амэрыканскае Энцыклапэдыі Згуртаваньняў" **(The Encyclopedia of Associations.** Gale Research Co., Book Tower, Detroit, Mich.), у якой пералічаюцца, апрача амэрыканскіх, і некаторыя арганізацыі Канады, названыя гэткія беларускія арганізацыі ў ЗША: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларуска-Амэрыканскае Жаночае Згуртаваньне, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, Беларускі Кангрэсавы Камітэт, Фэдэрацыя Вольных Беларускіх Журналістаў, Беларускі Дапамаговы Камітэт, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Беларускае Літаратурнае Згуртаваньне, Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Беларуска-Амэрыканскія Вэтэраны, Беларускі Вызвольны Фронт.

**СЬВ. ✝ ПАМ.**

## ЯНКА ЧАРНЭЦКІ

Памёр 16 ліпеня 1984 г. на 90-м годзе жыцьця ў Чыкага ў Злучаных Штатах Амэрыкі, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць

**Жонка Аляксандра**
**Дочкі з мужамі:**
**Ванда й Міхась Махначы,**
**Ірэна і др. Пётра Гайдзелі,**
**сын др. Юрка й Грэта Чарнэцкія,**
**унучкі, унукі й праўнукі.**

**СЬВ. ✝ ПАМ.**

## АДАМ ШАРАЕВІЧ

Пасьля цяжкое й працяглае хваробы адыйшоў на вечны супакой 12 ліпеня 1984 г. ў Адэляйдзе ў Аўстраліі сьв. пам. Адам Шараевіч, пакінуўшы ў горы й смутку жонку Надзю, дочак Параску, Кацю, Моцю, Ніну, Ліду ды сына Міхася, зяцёў Аксэнта, Уладзіміра й Віктара, пятнаццаць унукаў і восем праўнукаў.

Нябожчык быў шчыры Беларус і аддаваў усе свае сілы справе пабудовы беларускае царквы й залі. Быў ці раз выбіраны ў склад пафіяльнае рады і даўгі час выбіраўся за царкоўнага старасту, на гэтай функцыі й адыйшоў у вечнасьць.

Нябожчык нарадзіўся 15 траўня 1904 г. ў вёсцы Пухавічы Жыткавіцкага раёну Палескае вобласьці. Пахаваны на могільніку Чэстэльгайм. Абрад паховінаў выканаў а. Яўгень. Вечная памяць, дарагі Адам. Хай будзе Табе пухам аўстралійская зямелька. Спачывай там, дзе праведнікі спачываюць.

Аб сьмерці сьв. пам. Адама Шараевіча з глыбокім сумам паведамляюць і выказваюць сваё спачуваньне жонцы, дзецям, унукам і праўнукам Нябожчыка Парафіяльная Рада й Беларускае Аб'еднаньне ў Адэляйдзе ў Паўдзённай Аўстраліі.

**Я. Ролсан**

**СЬВ. ✝ ПАМ.**

## ВЕРА КАЧАН

**(21. IX. 1891 — 13. IV. 1984)**

Пасьля даўгое хваробы заснула навекі, у сваім доме, сярод родных і блізкіх, у Сыднэі ў Аўстраліі, маці сьв. пам. Аркадзя Качана.

Пахаваная на могільніку Руквуд і спачывае паміж мужам і сынам.

**Пакінутыя ў смутку:**

**Нявестка Оля Качан,**
**унук др. Юра Качан з жонкай,**
**брат і братавая нявесткі**
**Мікола й Галя Сьвідэрскія.**

## ПАДЗЯКА

Гэтым шляхам выказваем шчырую падзяку ўсім, хто сваёй прысутнасьцяй на паховінах і паніхідах, а таксама прысланымі кветкамі аддаў апошнюю пашану дарагой Бабцы, сьв. пам. Веры Качан. Дзякуем усім прамоўцам над магілай і ўсім спадарыням, што дапамаглі на памінальным абедзе ў Беларускім Клюбе. Дзякуем за нэкралёгі сп. Кастусю Акулу й сп. Міхасю Лужынскаму ды ўсім прыяцелям і знаёмым за цёплыя спачуваньні ў нашым смутку.

Няхай Усявышні Вас усіх за гэта ўзнагародзіць.

**Сям'я**

## АСЬВЕТЧАНЬНЕ

**Парафіяльнае Рады парафіі БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронце**

У сувязі з хвальшывымі весткамі, пашыранымі пра нашую парафію (гл., прыкладам, „Беларускі Голас" № 316, ліпень 1984 г.), гэтым заяўляем: Ані Максім Таўпека, ані Ніна Чорная, ні П. Шышко, ні Зьмітро Курыловіч не належаць да парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронце й ня маюць ніякага права выступаць ад ейнага імя. Тыя асобы, што бязь ведама Парафіяльнае Рады нашае парафіі прадстаўляюць сябе нашымі парафіянамі ці выкарыстоўваюць у сваіх мэтах адрыс Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру (524 St. Clarens Ave.), сьцягваюць на сябе пагрозу пэрсанальнае адказнасьці за гэткую дзейнасьць у цывільным судзе.

Таронта, 12. VIII. 1984 г.

**Парафіяльная Рада**
**парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронце:**

**Архіепіскап Мікалай,**
**Б. Кірка (старшыня), Мікола Ганько, Марыя Ганько, Ул. Целеш.**

## „П'ЯНСТВА Й АЛЬКАГАЛІЗМ ДЗЯЦЕЙ"

Менская „Настаўніцкая газэта", орган Міністэрства асьветы БССР, у нумары за 9. VI. 1984 г., у рубрыцы „На вашы пытаньні адказвае спэцыяліст", зьмясьціла кансультацыю А. Озер, загадчыцы мэтадычнага кабінэту рэспубліканскага Дому санітарнай асьветы Міністэрства аховы здароўя БССР. А. Озер піша:

„Па даных апошніх гадоў, якія атрыманыя пры апытаньні вучняў старэйшых клясаў сярэдніх школаў, алькагольныя напіткі спрабавалі 75% хлопчыкаў і 40% дзяўчынак восьмых клясаў. У дзявятых клясах з алькаголем былі знаёмыя ўжо 80% хлопчыкаў і 60% дзяўчынак, у дзясятых клясах — 95% юнакоў і 90% дзыўчынак.

„У п'янстве і алькагалізьме дзяцей вінаватыя, як правіла, дарослыя. Вядомы савецкі пэдыятр І. Е. Янушэўскі, аналізуючы прычыны, пад уплывам якіх дзеці й падлеткі прывучаюцца да сьпіртнога, прыйшоў да такіх вывадаў: прывучылі бацькі — 39%, бралі прыклад з дарослых — 33%, прывучылі старэйшыя таварышы 25%, прычыны не ўстаноўленыя — 3%. Так, 82% з 900 апытаных навучэнцаў аднаго з прафэсіянальна-тэхнічных вучылішчаў першы кілішак сьпіртнога (піва, віна, гарэлкі, самагону) спрабавалі ў дзяцінстве або юнацтве ў часе сямейных сьвятаў, а затым пачалі самі ўжываць алькаголь. Ня ведаючь аб недапушчальнасьці ўжываньня дзецьмі сьпіртных напіткаў 56% дарослага насельніцтва. Вучні, якім дазваляюць ужываць сьпіртное разам з дарослымі ў сям'і, у 9 разоў часьцей выпівалі ў кампаніі сяброў, чым іх равесьнікі, якія дома ня п'юць".

## ФІНАНСАВАЯ СПРАВАЗДАЧА

Фінансавая справаздача Выдавецкагкага Фонду „Беларуса" за бягучы пэрыяд будзе зьмешчаная ў наступным верасьнёўскім нумары газэты.

